№ 1. КОШТ 4 АЎКС.

# ЧАСОПІСЬ

## МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

УРАДОВЫЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯ.—ВАЕННЫЯ АБГЛЯДЫ.—КРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ.—СТАТУТЫ І ПРАЕКТЫ.—БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА.—ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ.




1 2 3 4

**ПАДАРОЖЖА НАДЗВЫЧАЙНАЙ ЛІТОЎСКАЙ МІСЫІ Ў ВАРШАВУ.**

ПРАЕЗД ПРАЗ ГОРОДНО 18 Красавіка 1919 г. Стаяць на ганку: 1, Член Місыі і Камандзер 1-шага пешага Беларускага поўка К. ЕЗАВІТАЎ; 2, Старшыня Місыі, Член Літоўскай Тарыбы Д-р Г. ШАЎЛІС; 3, былы Міністэр Краёвай Абароны М. ВЕЛІКІС; 4, Начальнік Француэскай Ваенна-Палітычнай Місыі у Коўні палкоўнік К. РЭБУЛЬ.

**КОЎНА.**
**Верасень,**
**1919.**




## ЗЬМЕСТ № 1 „ЧАСОПІСІ“:

ТЭКСТ.



МАЛЮНКІ.

КОЎНА. Верасень, 1919 году. № 1.

# ЧАСОПІСЬ

МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

УРАДОВЫЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯ.—СТАТУТЫ І ПРАЕКТЫ.—ВАЕННЫЯ АБГЛЯДЫ.—БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА.—ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ.—КРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ.

## Да чытачоў.

Як ведама, да гэтаго часу Міністэрство Беларускіх Спраў не мело сваёй ўласнай часопісі. З аднаго боку таму, што думалася аб'еднаць выданьне урадовых вестак у тым, каб „Вестка Часоваго Ураду“, чы, як яна назызаецца на літоўску—„Laikinosios Viriausybės Žinios“, выдавалася адразу на літоўскай, беларускай, польскай і жыдоўскай мовах.

№ 1 гэтай урадовай весткі, які выйшоў яшчэ 29 сьнежня 1918 году у Вільні, так і быў выданы (апроч жыдоўскаго выпуску), але эвакуацыя Часоваго Ураду у апошнія дні сьнежэня з Вільні у Коўну, а Міністэрства Беларускіх Спраў 2 студзеня 1919 году з Вільні у Городно, а так сама і шмат іншых перэшкод на далі можнасьці выдаваць далей урадовую вестку і па беларуску.

З другого боку, сперш ўсе навіны нашаго Міністэрства друкаваліса бэз зьмен у спэцыяльным аддзелі віленскай беларускай газэты „Гоман“, якая зачынілася так сама у канцы сьнежня, потым у першай беларускай часопісі у Городні пад назвай „Беларускі Народ“ (у лютым і сакавіку 1919 году) і затым у часопісі беларускага культурна-прасьветнага таварыства „Бацькаўшчына“ такжа у Городні (у сакавіку і красавіку 1919 году).

Другіх прыхільных да нас газэт за гэты час, як да польскай акупацыі беларускай зямлі—у Городзеншчыне, так і у Ковеншчыне, ні на беларускай мове, ні на якой другой мове, больш зразумелай беларусам ніж літоўская, не выдавалася. Так сама зачынены палякамі і ўсе беларускія газэты на нашай зямельцы пад акупацыёй, як „Родны Край“ у Городні і „Беларуская Думка“ у Вільні.

А друкованага слова брак. Чэкаюць яго і пад польскай няволяй, патрабуюць беларускага слова тыя невелічкія калёніі беларусоў, якіе то там, то тут з даўных часоў жывуць на Жмудзі, просяць друку нашы беларусы вайсковыя, як там у гарачай працы на фронці, так і па ўсёй Літве. На гэтыя запытаньня Міністэрство Беларускіх Спраў і рэшыла пачаць выданьне сваёй „Часопісі“, у якой, як аб гэтым абвешчэна у загалоўку, пастараецца, па меры магчымасьці, даць як найболей важнейшага і цекавейшага матэр'ялу. У Радзе Міністроў некалькі часу таму па пачыну Міністра Беларускіх Спраў паднялося пытаньне аб сталай беларускай газэці у Коўні, але пакуль гэта думка перэродзіцца у жыцьцё, наша „Часопісь“, якая мае выходзіць не меньш разу у месяц, павінна хоць зьменьшыць гэты па праўдзі шкодны газэтны голад. Да таго нам удалося набыць для Коўны і асаблівасьці беларускаго шрыфту, што так сама нам вельмі паможэ.

Усіх чытачоў, як братоў-беларусоў, так і нашых прыяцелёў, просімо не лічыць нашу «Часопісь» урадовым «казённым» выданьнем, а пашыраць яе і памагаць матэр'ялам, як уселякае друкаванае слова, якое павінно сеяць свет, праўду і чэлавечныя думкі роўнасьці і братэрства.

РЭДАКЦЫЯ.

## Міністэрство Беларускіх Спраў

### ЗА 10 МЕСЯЦОЎ ІСТАНАВАНЬНЯ.

Кароткі нарыс.

Міністэрство Беларускіх Спраў у Літоўскім Урадзе фактычна стала працаваць на моцы пастановы Рады Міністроу (1-шаго Габінэту праф. А. Вольдэмараса), як скутак умоў паміж Віленскай Беларускай Радай і Прэзыдыумам Літоўскай Рады (Тарыбы) ад 15, 20, 21, 23, 26, і 27 лістапада 1918 году.

Асновы умоў былі вось якія:

а) беларускім прэдстаўнікам павінна быць адведзена 25% агульнаго ліку мейсц у Літоўскай Тарыбе;

б) дададзена адно Міністэрство:

в) асыгнованы на арганізацыю беларускай тэрыторыі сумы, прапарцыянальна лічэбнасьці і тэрыторыі;

г) Літоўскі Урад павінен стаяць за цэласьць заходніх беларускіх граніц з Беластокам і Бельскам;

д) беларуская тэрыторыя у Літоўскім Гаспадарстве становіць павінна аўтаномную адзінку з мовай урадовай беларускай;

у в а г а: ужэ цяпер для беларускіх спраў і пасрэдніцтва паміж Урадам і беларускім насяленьнем—пры Літоўскай Радзе творыцца з беларусоў —членоў Рады—Беларускі Сэкрэтарыят. Назначэньне урадовых асоб на беларускую тэрыторыю павінна адбывацца з ведама і за згодай Беларускаго Сэкрэтарыяту.

е) павінна быть бэзадкладна устаноўлена асобная беларуская школьная інспэкцыя.

На моцы памяненых умоў шэсць членоў Віленскай Беларускай Рады, як д. д. В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, Я. Станкевіч, кс. В. Талочко, К. Фалькевіч і Д. Семашко уступілі 27 лістапада у склад Літоўскай Дзержаўнай Рады, а былы Старшыня Рады 1-шаго Усебеларускаго Конгрэсу у Менску д. Язэп Воронко с 1 сьнежня прыняў пасаду Міністра Беларускіх Спраў у Літоўскім Урадзе.

Уступаючы у склад Літоўскай Тарыбы, беларускія дэлегаты злажылі Тарыбі 27 лістапада вось якую дэклярацыю:

„Беларуская Рада, выбраная на Конфэрэнцыі 25—27 студзеня 1918 г. прэдстаунікамі беларускаго насяленьня на заход ад лініі старога фронту, апіраючыся на постановы названай Конфэрэнцыі і маючы ідэалам утварэньне фэдэратыўнага Літоуска-Беларускага Гаспадарства, дзеля важнасьці перыжываннага мамэнту знайшла патрэбным прыступіць да конкрэтнай работы з Літоускай Тарыбай, як адзіным цяпер істнуючым літоускім прэдстауніцтвам.

Беларуская Рада верыць, што два народы, злучаныя гістарычна і эканамічна, падаушы адзін аднаму руку, патрапяць здабыць сабе вольнае і нізалежнае жыцьцё, ідучы дарогай дэмакратычнага будоуніцтва агульнае Дзяржавы.“

Увайшоушы у Тарыбу, беларусы арганізавалі з сябе так званае Беларускае Прэдстауніцтво (што тое самае Беларускі Сэкрэтарыят) з д. Ластоускім на чале, і затым у хуткім часе выдзелілі ад сябе д. Семашку у Літоускую Міравую Дэлегацыю у Парыж. Другі дэлегат-беларус меу быць выбраны у хуткім жэ часе.

Міністэр Беларускіх Спрау, уходзячы у склад Ураду, так сама злажыу Старшыне Рады Міністроу 9 сьнежня сваю дэкляpацыю, тэкст якой падаем:

„Пастаулены выказаваць і абараняць інтэрэсы беларускіх жыхароу у граніцах новабудуемаго Літоускага Гаспадарства і у прынцыпі прынімаючы Дэклярацыю Старшыні Рады Міністроу, я, уступаючы у Габінэт, лічу сваім абавязкам, як беларус і сацыяліст, заявіць, што у сваёй рабоце я буду стаяць на грунці строгай дэмакратычнасьці, коаліцыйнасьці работы усіх слаёу і клясоу насяленьня і бэзадкладнай падгатоукі і праведжэньня сацыяльных рэформау у пытаньнях зямельнага і работніцкага законадауства.

Прызнаучы, што бурэньне усіх нормау сучастнаго ладу Літоускага Гаспадарства можэ пашкодзіць справі арганізацыі краю, што сучастны Урад Літвы зяуляецца далёко не дасканальным і часовым, я буду абараняць

перэдачу усёй улады Літоускаму Установчаму Сойму, выбранаму на аснові агульнага, роунага, простага, патаемнага і прапарцыяльнага выборчага права.

З'яуляючыся старроннікам народауладства і згоднага хаураснага жыцьця усіх народау, закончэньнем дзержаунага будоуніцтва Літвы я лічу заснаваньне незалежнай Літоускай Народнай Рэспублікі у фэдэрацыі з суседзямі, якая найболей будзе адпаведаць яе інтэрэсам, з аутаномным упрауленьнем дзеля тых частак, якія усуцэль заселены нелітоускай нацыянальнасьцю і акажуцца у граніцах новобудуемага Гаспадарства і—з нацыянальна-пэрсанальнай аутаноміей дзеля усіх меньшасьцей у Гаспадарстві наагул".

Так пачалася супольная праца беларусоу з літвінамі, пачалосе адраджэньне старага Літоуска-Беларускага Гаспадарства, под штандарам якого два народы праз пяць векоу змагаліся за сваю супольную назалежнасць і дабрабыт.

1-шы Урад Літвы у студзеню складауся с такіх асоб: Старшыні Рады Міністроу і Міністра Заграні́чных Спрау — проф. А. Вольдэмараса, Міністра Грашовых, Гандлевых і Прамысловых Спрау—М. Ічаса, Міністра Унутрэных Спрау В. Сташынскаго, Міністра Справедлівасьці П. Леонаса, Міністра Землеробства і Дзержаунай Маентнасьці І. Тубеліса і Загадчыка Міністэрствам Народнай Асьветы І. Ічаса. З увойсьцем Міністра Беларускіх Спрау, як члена беларускай партыі сацыялістоу-фэдэралістоу, Літоускі Урад станавіуся коаліцыйным, што рабіло яму новы пэрыод яго шляху.

Праз колькі часу-у палові сьнежня увайшлі яшчэ у Літоускую Тарыбу прэдстаунік жыдоу, як д. д. Я. Выгодзкі і Н. Рахмілевіч, і першы з іх, апроч таго, быу назначэны на пасаду Міністра Жыдоускіх Спрау.

У першыя дні да устанауленьня нармальных адносін Ураду да новоутворэнага Міністэрства,—функцыі Міністэрства Беларускіх Спрау акрэсьліваліся прэдстауленьнем кандыдатау-беларусау на пасады паветовых і гарадзкіх камісарау у Городзеншчыне, прэдстаунікоу Міністэрства Народнай Асьветы, Справедлівасьці, Землеробства, Дзержаунай Маетнасьці і інш.



**Іван І. ЛУЦКЕВІЧ.**

Былы Член Літоўскай Дзержаўнай Рады, вучоны археолёг, старэйшы працаўнік беларускаго нацыянальнаго адраджэньня і фундатар беларускае народнае газэты „Наша Ніва".

Радзіуся у 1881 году у Менску, † 17 жніўня 1919 гаду у санаторыі для сухотнікаў у Закапаным у Галіцыі.

За гэты час праз Міністэрство Беларускіх Спрау прайшлі назначэньня камісарау у Беласток, Саколку, Белавеж, Бельск, Городно, Дзятлава, Крынкі, Плянты, Ліду*), назначэньне судзяу, следчых, лесьнічых, школьных інспэктароу, арганізованы былі беларускія зьезды у Дзятлаві, Бельску і Городні. Прауда, у першых кроках не усе Міністры яшчэ маглі уцяміць сабе літоуска-беларускае супрацоуніцтво на полі дзержаунаго будауніцтва і праз тое выходзілі часта памылкі у пасылцы людзей на мейсцы, але гэты выпадкі на шчасьце не вельмі пашкодзілі справе.

*) Назначэньне камісараў у Воўкавыск і Ашмяну адбылiся паміма Міністэрства Беларускіх Спраў.

Апроч вышэй паказаных спраў, Міністэрство у Вільні (не займаючы пакуль што спэцыяльнаго будынку, а месчучыся спачатку у „Новай Устэрыі“ на Вялікай вуліцы, а пасьля у адным пакою будынку Літоускай Тарыбы на Юраускам праспэкту), карыстаючы правам, даным яму яшчэ і членамі Літоускай Тарыбы-беларусамі, стала займацца і вайсковай справай.

Усімі вайсковымі справамі Літвы ведау тады запрошэны з Менску беларускі гэнерал К. Кондратовіч, які меу званьне Віцэ-Міністра Краёвай Абароны (Міністрам быу сам Прэмьер). Вось тут—пры назначэньні беларусоу на адпадведныя пасады у новых беларускіх поуках запатрэбавалася санкцыя Міністра Беларускіх Спрау.

У Вільні, як ведама, тады былі немцы: Глаунае іх Камандаваньне і Штаб 10-ай Гэрманскай Арміі з гэнералам-ад-пехоты ф. Фалькенгайнам і Начальнікам Штабу падпалкоунікам Штапфам, якія перэехалі сюды з Менску,-і апроч таго Глаунаупоунаважнены Гэрманскаго Ураду д-р Л. Цымэрле, якому было даручэна разьвязываць усе справы паміж літвінамі і нямецкай вайсковай уладай.

У канцы сьнежня на Вільню сталі націскаць усё болей бальшэвікі з боку Дзвінска і Менска і паднімалі навакол галаву, тайна арганізуючысе, палякі. Апроч таго, Урад з малым лікам сацыялістоу не меў вялікай пашаны у грамадзянства, вайсковая справа ішла упярод ад гэтаго туга.

Гэтыя і шмат іншых прычын прымусілі увесь 1-шы Габінэт праф. А. Вольдемараса 26 сьнежня падаць у адстауку.

Другі Габінэт, па умове з Прэзыдыумам Літоускай Тарыбы, на чале якого стояу тады д. С. Шыллінгас, зложэны быў зарас жэ ужэ сацыялістам М. Слежэвічам і складыуся з такіх асоб: самога М. Слежэвіча, які стау Старшынёю Рады Міністроу, загадчыка Міністэрствам Заграничных Спрау А. Янулайтіса (сацыял-дэмакрата), Міністра Унутрэных Спраў І. Вілейшыса (сацыяліста-народніка), Міністра Народнай Асьветы М. Біржышкі (с.-д.), Міністра Землеробства і Дзержаунай Маетнасьці І. Тубеліса, Загадчыка Міністэрствам Харчовых Спрау і Працы І. Пакніса (с.-д.) Міністра Гандлю і Прамысловасьці І. Шымкуса. Загадчыка Міністэрствам Грашовых Спрау В. Чарнэцкага, Міністра Краёвай Абароны М. Велікіса, Міністра Беларускіх Спрау Я. Варонко, Міністра Жыдоускіх Спрау Я. Выгодзкага і Міністра бэз партфэлю А. Стульгінскага.

Новы Міністэр Краёвай Абароны (беларус-гэнерал К. Кондратовіч так сама падауся у адстауку) пры такіх варунках, калі людзі толькі-толькі пачалі ісьці у самаахвотніцкую літоускую армію, ня мог нават і думаць аб абароні Вільні ад каго-бы то ні было. Беларускае вайсковае фармаваньне яшчэ раней было перэведзена у Городно. На чале 1-шаго Беларускаго поука стау афіцэр М. Лаурэнцьеу.

Увесь Урад Літоускаго Гаспадарства у апошнія дні сьнежэня быу эвакуован у Коуну, а Міністэрства Беларускіх Спрау на моцы пастановы Рады Міністроу яшче ад 19 сьнежня перэйшло у Городно, куды апошняя часьць Канцэлярыі выезджала з Вільні, калі ужэ горад быу у руках аружных мейсцовых маладых палячкоу, паналепляушых на свае гімзіяльныя мэгеркі і капелюшыкі польскіх арлоу.

З пачатку студзеня да канца красавіка 1919 году Міністэрства Беларускіх Спрау у Городні зьяўлялася, незалежне ад наданых яму правоу, прэдстауніком усяго Літоускаго Ураду ва усіх галінах упрауленьня і арганізацыі беларускай поудзенай часьці Гаспадарства. Пры немагчымасьці зносіцца Городзеншчыне з Коунай, дзе быу Урад, насяленьне усёй гэтай тэрыторыі і нават часьці Аугустоушчыны, ужэ пачынаючае усё болей прыхільней адносіцца да Літоускай Улады, ішло у Міністэрство Беларускіх Спрау і патрэбавало адказоу на усе запытаньня, шукала там суда і абароны. Наколькі разнавідна была неуспадзеукі праца Міністэрства Беларускіх Спрау у гэты пэрыод, можна ясна бачыць з такога перэлічэньня спрау Міністэрства.

У заграничным пытаньні Міністерства праз Урад неколькі разоу дабівалася абароны

беларускай зямлі ад наездоў палякоў на Бельск, Белавеж, Беластск, Саколку; пратэставала проці дапушчэньня працы польскага камісара у Городні (С. Іваноўскаго), мела яшчэ у лютым першую канфэрэнцыю з прыехаўшым з Варшавы амэрыканскім дэлегатам паўкоўнікам В. Гровэ, катораму і было запрапановано на другі раз пачынаць азнаёмленьне з Літвою не ад стараны польскай акупацыі, а ад Коўны, з Ураду і т. д.

Ва ўнутрэнным пытаньні, апроч у пачатку стацыці памянёных спраў, Міністэрстерства мусяла падтрымліваць і упарадачываць адносіны рожных, як рэвалюцыйна, так і ў парадку арганізацыі створэных, мейсцовых устаноў, як Городзенскай Беларускай Паветовай Рады Селянскіх Дэпутатаў, Городзенскай Беларускай Краевай Управы, Городзенскага Камітэту Сувязі Культурна-Нацыянальнага Адраджэньня Беларусі; апроч таго прыйшлося регуляваць працу паветовых камісараў, нікаторых з якіх прышлося звольніць, на іх мейсцэ назначыць новых, арганізаваць бюро друку і устанавіць звязь з немцамі у справе парадку перэдачы усёй улады у рукі беларусоў.

М. ЗАСЕЦКІ.

(Канец будзе).

## НАША УКРЫЖОВАНАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА.

ПРАТЭСТ МІНІСТРА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ ПРАЗ СТАРШЫНЮ РАДЫ МІНІСТРОЎ ЛІТОЎСКАГА УРАДУ.

УРАДОМ ЗЬЕДНАНЫХ ШТАТОЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ, ВЕЛІКАБРЫТАНІІ, ПРАНЦУЗСКАЙ РЭСПУБЛІКІ, ВЛОХАЎ І ДРУГІХ ДЗЕРЖАЎ АНТАНТЫ.

Аўгустоўскі павет былой Сувалскай губэрні з волі Антанты (гэта значыць, тых дзержаў, якія да бальшэвізму былі у хаўрусе з Расеяй,—увага рэдакцыі!) адданы ва ўладарства Польскай Рэчы Паспалітай.

Апошні кавалак беларускай зямлі даверан страдаунім ворагам беларускаго народу—паляком, каторых ні культурнае 20-ае сталецьце, ні крывавейшая з бойняў—Вялікая Вайна не навучылі устрыманьню ад падняволеньня суседзяў і асыміляцыі.

З аддачай польскім легіонам гэтаго астатка многапакутнай беларускай зямлі, уся тэрыторыя Беларусі становіцца цяпера-ка раздзеленай на двое: паміж бальшэвіцкай маскоўскай арміёй Льва Троцкаго і польскімі легіонамі Язэпа Пілсудскаго, і апошнім, як раз, дастаецца тая частка Беларусі, якая ужэ у сваей будучыне, як і ў даўныя часы,—згодзілася ісьці поруч з такою жа многапакутнай літоўскай зямлею у складзе адбудовываемагага Літоўскаго Гаспадарства.

У гэтыя чорные дні, калі знаемая усім беларуская часьць Літоўскаго Гаспадарства, як то паветы: Берэсьцейскі, Бельскі, Пружанскі, Белавескі, Коб-



**Пратаерэй І. КОРЧЫНСКІ.**

Член Літоўскай Дзержаўнай Рады ад Городзеншчыны, вядомы гісторык краю і беларускі дзеяч; арэштованы польскімі жандармамі і вывезены у Варшаўскі астрог за тое, што выступаў проці зьдзеку акупантоў над беларусамі.

рынскі, Беластоцкі, Слонімскі, Сакольскі, Воўкавыскі, Городзенскі, Лідскі, Віленскі, Ашмянскі, Дзятлаўскі, Новагрудзкі стогнуць у цяжкім ярме польскай няволі, калі глохне голас жывого чалавека у спакойных з даўных часоў беларускіх вёсках і мястэчках, калі зарасьлі ужэ лапухом сьцежкі у запечатаныя цэрквы і зачыненыя беларускія школкі, калі усё культурнае і свядомае у краі валакуць у паліцэйскія каморы, гоняць у турмы і высылаюць далёка за межы роднай зямлі-у сытую і нібы-то справядлівую Варшаву, чы стары і нібы-то людзкі Кракаў,—тута-ка „абкругляюцца“ граніцы польскага тэрору, зьдзеку і у дапамогу паляком у іх барацьбе з большэвікамі на усходзі, чы, што яшчэ горш, з нашымі братамі украінцамі на поўдню,—да „Вялікай Польшчы“ прырэзаваюцца ласыя кавалкі на заходзі за рахунак беларускіх зямель.

Вялікія Дзержавы, скончыўшы Вялікую Вайну вялікай для сябе змогай, не ведаюць, чы не хочуць ведаць, што робіцца у малой беларускай старонцы, абхопленай вялікай несправедлівасьцьцю,-у старонцы, якая ужэ шэсьць год паліваецца кроўю родных сыноў, дзе с кожным днём чарней і страшней робіцца сьветлы дзень, дзе чалавек даўно ужо забыўся радасьці і усьмеху, дзе праўда і права вывеліса ужэ з гутаркі, дзе на зьмену паважаньню асобы і грамадзянскае дастойнасьці прышлі старыя, можэ быць незнаёмыя і сярэднім сталецьцям,—пуга, зьдзек, уціск.

Не адзін раз ужэ прэдстаўнікам беларускаго народу прыходзілася пратэставаць і перад Гэрманскім Урадам і перад многімі місыямі Антанты, якія наезджалі то ў Коўну, то ў Городно, з поваду заняцьця палякамі спачатку Бельску, Белавежы, затым Беластоку, Саколкі, наканец Городна, Ліды. Чы дашлі гэтыя пратэсты да тых мейсц, куды яны пасылаліся, нікому не ведама, а што сталі выробляць цяпера-ка варшаўскія набежчыкі на беларускай зямлі—гэта ужэ ведама цяпер ўсім, каму сьвята чэлавечнасьць і справядлівасьць.

Ад 1-га чэрвеня, гэта значыць, ад момэнту разаружэньня палякамі ашукашаго імі ж 1-га (за 200 гадоў!) Беларускаго пешага поўка у Городні, якім, полякі, за час істнаваньня яго у межах польскай акупацыі, вельмі хваліліса, як выказываньнем жаданьня беларусоў уступіць зноў нібы-то ў унію з палякамі,—пачынаюцца цяжэйшыя часы беларусоў, на головы якіх зваліліса усе кары, якія калі лёс пасылаў на людзей.

Не лічучыся ні з якімі законамі Міжнарадоваго Права, чы міждзержаўных даговораў, так сама, як не маючы ніякаго апраўданьня сваёй акупацыі беларускай зямлі, полякі дапушчаюць рэвізыю, затрыманьне, чы арэшт членоў Літоўскага Парлямэнту (Тарыбы)-беларусоў, чы высылаюць іх.

Аддаюць пад жандармскі надзор прэдстаўнікоў высшага праваслаунага беларускага духавенства, зачыняюць і бэз таго не многалічбенныя беларускія часопісі і кідаюць у турмы рэдактароў і супрацоунікоў.

Зачыняюць, чы перэвертаюць у касцёлы, тыя праваслаўныя цэрквы, якія ніколі да рымскага закону не належалі, а так сама, проці волі насяленьня, заводзяць беларускія школы і у тых мейсцох, дзе жывуць не толькі беларусы-каталікі, але і праваслауныя.

Усю вясковую інтэлігэнцыю: свяшчэнікаў, псаломшчыкаў, вучыцелёў, былых афіцэраў-наагул вінавацяць у большэвізьме і аддаюць іх на пабоі, зьдзек, галодны арэшт і потым высыюць не ведама куды.

Прымушаюць малаграматнае і неадукованае насяленьне за абецанку яму атрыманных „з Амэрыкі“ харчоу (сала, мукі, насён), чы наагул якіх небудзь палехчэньні ад польскаго рэжыму,-даваць подпісі аб тым, што яны (насяленьне) ёсьць—польскай нацыянальнасьці і хочуць належаць да Польшчы,—не саромеючыся браць подпісы нават ад непоўналетніх і дзяцей.

Адбіраюць кавалак хлеба ад усіх тых мейсцовых жыхароў, якія да палякоў служылі у мейсцовых установах, тому, што яны не ведаюць польскай мовы, і гэтым самым павелічываюць лічбу бэзработнага люду.

Усюды уводзяць польскасьць у рожных відах, спыняючы усё непольскае, карыстаючы з касьцёлу і касцельных працэсыі, як спосабау распаусюжэньня не рэлігіі, а палітычнай прапаганды польшчыны, націаналізуючы касьцёл у польскі колёр і спыняючы праваслауе, старасьвецкую веру беларусоў.

Аблагаюць немаважлівымі паборамі і налогамі, весковае насяленьне, як на карысьць мейсцовых памешчыкоў—палякоў, большэсьць якіх і з'яуляецца цяпера-ка камандзерамі польскіх легіонау, так і на карысьць пастаяльцоу-польскіх адрадоў.

Пазбауляюць насяленьне усіх грамадзянскіх свабодау і нават свабоды сумленьня; новадняюць старонку выданьнямі і газэтамі на польскай мове, у якіх абражаюць нацыянальнае пачуцьцё беларуса і бароняць яуную несправядлівасьць свайго паходу на Беларусь.



**Д-р К. БЕЛЕЦКІ.**

Член Літоўскай Дзержаўнай Рады ад Городзеншчыны, дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэньня; захоплены варшаўскімі наездчыкамі, позбаўляючымі беларускі народ яго інтэлігэнцыі, і трымаецца у Городні.

Абвешчюаць набор у польскія войскі і арганізуюць у акупованых беларускіх мейсцох пад даглядам цывільнай улады выбары у Польскі Сойм, даючы аб гэтым думку, што памянёныя беларускія паветы ужэ наузасёды адыйшлі да Польшчы.

Разаружный беларускі поук у Городні трымаюць зачыненым у горадзі, не даючы нікому права выезду, позбавіушы афіцэроу і солдатау пражыцьцёваго мінімуму, даводзячы іх да рыхтаваньня на самазабойство да галоднага тыфусу, дапускаючы праізвол нізшых жандармоу, маючых права затрымаць уселякаго беларускаго афіцэра но вуліцы колькі разоу захочэцца, рабіць асабістую рэвізію і бэзкарна адбіраць пры рэвізіі усё, што пападзецца болей цэннае у рукі.

Усе бэззаконнасьці гэтых місіонэрау калісьці слаунай польскай культуры напоуняюць глухім стогнам беларускую землю, якая вось ужэ поугода носіць на сабе гэтых „амарантовых большэвікоу“.

Голас народу рэдка працэжываецца скрозь густы рад польскіх пагранічнікоу на белы сьвет, рыхтаваньня беларускіх жыхароу вывезьці за граніцы тэрыторыі акупацыі прозьбы жыхароу аб помачы і абароні, канчаюцца вельмі прыкра для народных абаронцау, якія, абшарэнныя да ніткі польскімі легіанерамі, пападаюць самае лепшае у кракоускі дысціплінарны лагер.

Жыдоускія пагромы, якія здарыліся за час польскай акупацыі у рожных мейсцох беларускай часткі Літвы, маючы добрых абаронцау у Нью-Ёрку, Лёндані, Парыжы, зьвярнулі увагу Вялікіх Дзержау на палажэньне жыдоу у польскай акупацыі. Антанта нават паслала на Беларусь дзеля гэтага спэцыяльную следчую камісыю. Беларускі жэ народ, ніколі не адпачываушы ад цяжкае працы на польскага паневерцу, не маець, па сваёй беднасьці сваіх абаронцау у такіх вялікіх цэнтрумах сьвету, нікто яго не слышыць вось ужэ колькі часу...

Выходзячы з такога цяжкага палажэньня у якім знайходзіцца цяпера-ка беларускае насяленьне памянёных вышэй паветоу, адорванае а сьвету, і якое я павінен абараняць з пад непрошанай польскай апекі і прыгону, як Міністэр Беларускіх Спрау, а так сама як едыны з уцэлеушых беларускіх прэдстаунікоу у Літоускай Дзержаунай Радзе, іменем бэзпраунага і знесіленнага беларускага народу пратэстую процi той занедбаласьці, якую дапускаюць апекуючыяся Польшчай і прызнаючыя яе дзержауную незалежнасць Вялікія Дзержавы (Зьедненыя Штаты Поуночной Амэрыкі, Велікабрытанія і асабліво Францыя), аддаючы на расправу польскім гайдамакам залітую кроую, спаленую і галодную беларускую землю.

Ніхай разам з гэтым пратэстам Апекуны учуюць і туую глыбокую злосьць, з якою гавораць сьведкі абразоу польскай акупацыі, бо відаць з-за музыкі польскіх пабедных трубау, далей беларускіх межау не чуць стогну беларускага народу, плачу жанок і матак.

Ніхай ведае сьвет, што калі не будуць стрыманы бэззаконьня польскіх войскау і чыноунікау, калі справядлівыя судова-следчыя камісыі не будуць устаноулены у каждым беларускім павеце, то беларускаму народу, страціушаму надзею знайсьці помач у „сільных гэтаго сьвету“, астанецца палажыцца з Божай помаччу на моц родных сыноу, яшчэ хаваючыхся у цёмных лесох і векавых пущах Беларусі ад Пілсуцкага, дзе раней хаваліся польскія поустанцы ад Муравьёва.



Член Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, рэдактар народнай газэты „Родны Край“ у Городні, кінуты палякамі у Віленскую турму на Лукішках, дзе яго галоднаго і хвораго корміць жыдоуская бедната.

Моцна пратестуючы проці палітыкі апекуноу Польшчы, ад якой Беларусь даведзена да гібелі, іменем беларускаго народу патрабую найхучейшага умешаньня у самавольле палякоу на Беларусі, лічучы, што многамільённы беларускі селянскі народ мае такое ж права на увагу і справядлівыя да яго адносіны, як і народы Арменіі, Сэрбіі, і Бельгіі, і што ніякія прынцыпы крыві і жалеза, якія нясуць польскія легіонеры на канцох застаушыхся ад Вялікай Вайны французскіх шаблёу, не прымусяць беларускі народ прызнаць права польскаго панства на беларускую землю.

Гэдзь, за Нараў!...

Член Літоускай Дзержаунай Рады (Тарыбы) і Міністэр Беларускіх Спрау

(подпіс) ЯЗЭП ВАРОНКО.

Кауна. 17 жніуня 1919 г.

ПРАЕКТ.

## Часовае палажэньне

### АБ МІНІСТЭРСТВІ БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ УРАДУ ЛІТОЎСКАГА ГАСПАДАРСТВА.

ГЛАВА І.

УСТАНОВА МІНІСТЭРСТВА І ЯГО ФУНКЦЫІ.

§ 1. Міністэрства Беларуских Спраў істнуе на моцы варункаў, зробленых паміж Віленскай Беларускай Радай і Літоўскай Дзержўнай Радай 14—27 лістапада 1918 году.

Увага: На моцы гэтых жэ варункаў сем беларусоў уходзіць у склад Літоўскай Дзержаунай Рады, з якіх і складаецца Беларускае Прэдстаўніцтво.

§ 2. Міністэрства Беларускіх Спраў мае на мэці прэдстаўляць і абараняць справы беларусоў, як жывучых адналітай масай у палуднёвай (беларускай) часьці Літвы, так і ўсяго беларускаго насяленьня, укропленаго у паўночнай (ўласьне-літоўскай) часьці Літоўскаго Гаспадарства, на аснове тэрыторыяльнай аўтаноміі у першым выпадку і нацыяльна-персанальнай аўтаноміі у другім выпадку.

§ 3. Міністэрства Беларускіх Спраў распрацовывае ўсе, датычачыя устаноўленьня аўтаномнага упраўленьня у беларускай часьці Літвы, а так сама і нагул усіх нацыянальных правоў беларускіх жыхароў законапраекты і падаець іх на разгляд Рады Міністроў пасля ж прыняцьця новых законаў маець права выдаваць распараджэньня, маючыя мэтай дапамагаць правядзеньню законаў у жыцьцё.

§ 4. Упярод да устанаўленьня аўтаноманго упраўленьня беларускай часьці Літвы і адзначэньня пэўных граніц Гаспадарства, раёнам сплош заселеным беларусамі лічыцца раён вокругоў: Гародно, Аўгустоў, Саколка, Крынкі, Ліда, Ашмяна, Ваўкавыск, Слонім, Дзятлава, Беласток, Бельск, Белавеж, Бересьцье, Пружаны, Кобрын, а так сама суседнія валасьці вокругоў, прылегаючых да пераліченых вокругоў на паўночна-заходзі і на паўначы.

§ 5. Міністэрства Беларускіх Спраў зьяуляецца зусім раунапраўным з іншымі Літоўскімі Міністэрствамі Літоўскай Дзержавы: Міністэр Беларускіх Спраў прынімае учасьце ва ўсіх нарадах Рады Міністроў і мае права самастойнай адповедзі у Літоўскай Дзержаунай Радзе.

§ 6. Усе срэдствы, патрэбныя Міністерству Беларускіх Спраў дзеля выпаўненьня яго функцый, адпускаюцца з Дзержаўнаго Скарбу на агульных асновах.

ГЛАВА II.

СКЛАД МІНІСТЭРСТВА І СЕЦЬ ЯГО ОРГАНОЎ

§ 7. Міністэрства Беларускіх Спраў складаюць: 1) Міністэр Беларускіх Спраў, 2) Віцэ-Міністэр, 3) Упраўляючы Справамі, 4) Рада Міністра Беларускіх Спраў, 5) Цывільны аддзел, 6) Грашова—гарговы аддзел, 7) Аддзел прасьветы, 8) Тэхнічны аддзел, 9) Аграрны аддзел, і 10) Ваенны аддзел.

§ 8. Кандыдат на пост Міністра Беларускіх Спраў выстаўляецца Беларускім Прэдстауніцтвом Літоўскай Дзержаўнай Рады і запрашаецца на гэты пост Старшыней Рады Міністроў, чы асобай якой даручана фармаваньне Габінэту.

## ПАГІБЕЛЬ СТАРАСЬВЕДЧЫНЫ.

Стацьця.

Па нашай роднай зямельцы ад пачатку вайны ужо праходзіц чацьвёрты вал. Кажуць, што самы страшны бываець—толькі дзевяты вал. Мы ужо многа перажылі у нашай гісторыі гэтых дзевятых валаў, многа прынясьлі ахвяр на адзін агульны аўтар міравой культуры, таму нам кожэн новы вал,-што дзевяты...

Першы вал быў тады, калі магутная, як марская бура, расейская імпэратарская армія, дзякуючы апецы старого дзержаўнаго махляра Сухамлінава, адступаючы перэд немцамі, нішчыла ўсё на сваём шляху, аддаючы полымю гарады і вёскі, кідаючы пад ногі коням здабыткі мінуўшчыны і пэрлы культуры, вывозячы на ўсход у Вялікарасею, так малазначныя дагэтуль старасьвецкія скарбы—архівы рожных краёвых устноў.

Многа дабра вывезьлі тады нашыя апекуны на ўсход, многа культурных памятак нашых паразсовывалі яны па рожных гарадох у цэнтральнай Расеі: ад Яраслава да Воронежа, ад Калугі да Туркестану. Адных званоў нашых каля Масква стаіць цэлое поле. Дзе гэта ўсе цяперака: медныя званы раскрадываюць камісары і „камітэты беднаты“, архівамі паляць печы у чразвычайках, дарагія кнігі і другія здабыткі культуры расьцягіваюць па хатах два гады зладзеі—гаспадары. Чы вернем мы што назад? Не дачэкаемса, мусіць! Кніга—у Велікарасеі загінула: жыве толькі, так завомая, савецкая літэратура.

§ 9. Віцэ-Міністэр Беларускіх Спраў запрашаецца Міністрам Беларускіх Спрау і задвержаецца Радай Міністроу

§ 10. Рада Міністра Беларускіх Спраў складаецца з Віцэ-Міністра, Упрауляючага Справамі, Начальнікоў усіх аддзелоў, і працуе пад кіраўніцтвам Міністра, чы, у выпадку яго адсуцтва, Віцэ-Міністра.

§ 11. Рада Міністра маець мэту абгаварываць справы, датычачыя агульнага становішча беларусоў у Гаспадарстве і склікаецца па меры патрэбы. У заседаньне Рады Міністра могуць быць запрошаны кампэтэнтныя асобы з погляду Міністра.

§ 12. Цывільны, грашова-тарговы, прасьветы, тэхнічны, аграрны і ваенны аддзелы Міністэрства Беларускіх Спрау зьяуляюцца дапамога-прыкладнымі органамі, корэктуючымі працу усіх адпаведаючых Міністэрстваў Літоўскага Ураду і ахраняючымі гарантыі правоу беларускага народу ва ўсіх галінах упрауленьня, арганізацыі, надзору, кантролю, эксплаатацыі і фіску.

§ 13. Цывільны аддзел абнімаець пытаньня унутрэных спраў, міліціі, юстыцыі, працы, апекі, сацыяльнаго абэзпечэньня і арганізацыі беларускага насяленьня.

§ 14. Грашова-тарговы аддзел абнімаець пытаньня таргоўлі, промыслу, фіску, кантролю, мытных сбороў, банкоў і тарговых школаў.



**К. Б. ЕЗАВІТАЎ.**

Былы Камандзэр 1-шага пешага Беларускаго поўка у Городні, затым Начальнік Канцэлярыі Міністэрства Беларускіх Спраў; 29 верасьня зусім пакінуў Літву.

§ 15. Аддзел прасьветы абнімаець пытаньня асабіста прасьветы, беларускіх друкоў, научных і паказацельных выставак, тэатру, штукарства, а так сама пытаньня веравызнаньняу для беларускага насяленьня.

§ 16. Тэхнічны аддзел абнімаець пытаньня рожных шляхоу зносін, почты, тэлеграфа, будаваньня, расшырэньня прыкладных навук.

§ 17. Аграрны аддзел абнімаець пытаньня зямельныя, лясныя, культурна-гаспадарскія, сельска-гаспадарскіх вучэбных закладау.

§ 18. Ваенны аддзел абнімаець пытаньня фармаваньня беларускіх вайсковых часьцей, назначэньня туды высшага і нізшага каманднага складу, апрацоўку усіх пытаньняу, зьвязанных з палажэньнем, састаяньнем і развіцьцём беларускіх часьцей літоўскай арміі.

§ 19. Кожны з аддзелоу Міністэрства вазглауляецца Начальнікам аддзелу, каторы маець сэкрэтара і склад служачых па характэру дзеяльнасьці, а так сама (за выключэньнем адзела прасьветы) у кожным вокрузе сваіх надзірацелёў у ліку ад 1 да 3, маючых мэту зьвязываць працу цэнтру з правінцыёй і на мейсцох вырэшаць экстрэныя нацыянальныя пытаньня у згодзе з агульна-дзержаўнай палітыкай.

§ 20. Аддзел прасьветы заменяець сабою

---

Другі вал—гэта нямецкая армія у нашым краю. Што асталоса старасьвецкага ад быўшых урадовых устаноў,-разумеецца не дажыло да нашага павароту. Праўда, немцы павыдавалі шмат новых кніжак аб нашай бацькаўшчыне, але ўсе-ж арыгіналы старасьведчыны вынішчыліся, старых кніг не далічыцца. У свой час у Городні па загаду Міністэрства Беларускіх Спраў нямецкі камэндант даў прыказ, каб ўсе немцы, у якіх на кватэры акажуцца якія-небудзь асабісто не іхніе архівы, чы кнігі, здаваць іх Міністэрству. Гэта работа дала Городні новую народную бібліотэку з некалькімі дзесяткамі тысяч старых кніг і архіўных помнікоў.

Але ж так было толькі у Городні. Позна іг эта было зроблена. Яшчэ і цяпера-ка, як у Городні, так і ў Вільні, ў Коуні ў крамах купляючаму заварачываюць селедзец, чы масла у старыя архіуныя дакументы,—будзь то купчая крэпасьць, тэстамэнт, чы папера часоў „раздзелоў Польшчы“, чы пачатку XIX сталецьця, аркушы старых дарагіх часопісей.

Трецьця магутная сіла зьмела, што асталоса ужэ пасля немцоў у Менску, чы Вільні,-гэта чырвоны урад Ёффэ, Міцкевіча-Капсукаса, Мяснікова і Кампаніі. У Вільні зьнішчэны цяпер нават тыя цэнныя нямецкія выданьня, якія асталіса там па ўходзе немцаў, як лепшыя кнігі выданьняу „Ober-Ost“, „Газэты 10-ай Арміі“, „Wilnaer Zeitung“ і інш. Гэта новая улада, якая гаспадарыла у нас праз студзень, люты, сакавік і часьць красавіка, выкінула на заварачываньне селедцоў яшчэ новыя архівы краю.

школьную інспэкцыю, кіруючы беларускай школай ў Урадзе і маець у кожным вокрузе свайго школьнага інспэктара і ад аднаго да двух абьездных надзірацелёў пры іх.

§ 21. Вокругі Гаспадарства з малым лікам беларускіх жыхароу у пытаньні свайго нацыянальнаго жыцьця падчыняюцца надзірацелям Міністэрства Беларускіх Спраў суседніх беларускіх вокругоў.

§ 22. Дзеля правідловай працы ўсіх органоў Міністэрства Беларускіх Спраў і нармальнай дзеяльнасьці яго агентоў чыны агульна-дзержаунай споўняючэй ўлады ў Літоўскім Гаспадарстве павінны аказываць ім поўную дапамогу.

## ГЛАВА III.

### АГУЛЬНАЯ КАНЦЭЛЯРЫЯ МІНІСТЭРСТВА.

§ 23. Агульная Канцэлярыя Міністэрства Беларускіх Спраў мае сваёй мэтай абслужываць усе тыя справы, якія не маюць бэзпасрэдняй зьвязі з якім небудзь аддзелам Міністэрства, а рэшаюцца самім Міністрам, а так сама справы юрыдычныя пытаньня бугальтэрскай адчотнасьці, кассы, зносіны з Дзержауным Кантролям. Агульная Канцэлярыя Міністэрства трымае у сябе так сама усе справы, датычачыя міжнародавай палітыкі Літоускага Ураду, назначэньне беларускіх атташэ у пазамежныя пасольства, консульства, чы місыі. На чале Агульнай Канцэлярыі стаіць Начальнік Канцэлярыі, патрэбны нармальны склад служачых, так сама ад 2 да 4 кваліфіцыраваных перэкладчыкау.

§ 24. Пры Агульнай Канцэлярыі Міністэрства Беларускіх Спраў знаходзіцца спэцыяльны Стол Друку, абслужываючы усю дзеяльнасьць Міністэрства Беларускіх Спраў у запытаньнях газэтнай інфармацыі, сводак і абглядоў, спауняючы так сама і рэдакцыйныя функцыі.

## ГЛАВА IV.

### АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНЯ.

§ 25. Назначэньне адпаведных чыноў спауняючэй улады Літоускага Ураду у беларускіе вокругі павінна рабіцца з згоды і ведама Міністра Беларускіх Спраў.

У в а г а: Назначэньне камандных чыноў у беларускія часьці літоускай арміі і вучыцелёў беларускіх школ павінна рабіцца па кандыдацкім спіскам Міністэрства Беларускіх Спраў.

§ 26. Міністэрства Беларускіх Спраў і усе яго органы і агенты зносяцца з Урадам і паміж сабой на беларускай мове і у дзелаводстві—„кірыліцай“.

У в а г а: Перапіска „лацінікай“ дапускаецца органам Міністэрства з асабістага дазваленьня Міністра Беларускіх Спраў.

Гэта Часовае Палажэньне —зложэна на моцы маей дакладной запіскі Радзе Міністроў, ад 7 сьнежня 1918 году у Вільні, на моцы праекту „Упраўленьня беларускай часьцыю Літвы“ Беларускага Прэдстаўніцтва Літоускай Дзержаунай Рады і полугадовага істнаваньня Літоўскай Улады у беларускай часьці Літоўскаго Гаспадарства пры маім у Літоўскім Урадзе учасьцьці.

Міністэр Беларускіх Спраў
Я. ВАРОНКО.

Коўна.
29 чэрвеня 1919 году.

---

Памятаю два цекавыя і падобныя мамэнты з першых дзён Расейскіх Рэвалюцый.

Першы-гэта, калі ні с т го ні с сяго 28 лютаго 1917 году „народ“ запаліў у Пецярбурзі вялікі будынак Вакружнога Суду, дзе былі архівы угалоўнікаў, а правакатары раскралі жандармскія аддзелы. Гэта, каб зладзеі маглі ужэ свабодна гуляць зноў па сьвеці, і каб ніхто не мог сказаць, што тыя другія ёсьць провакатары.

Так і з нашымі архівамі. Дзеля нашых ворагоў трэба было іх вывезьці, альбо зьнішчыць, каб мы не мелі юрыдычнага права на край, каб не мелі рэчовых доказоў істнаваньня нашай дзержаунасьці, іначэй, каб не мелі права судзіць тых, кто „гаспадарыў“ у нас праз 300 гадоў.*)

*) Палякі да 1772 году, а пасьля-расейцы.

Другі момэнт гэта ужэ у лістападзі таго ж году пры урадзе Леніна і Троцкага. „Ганаровыя польскія паны“ пайшлі да большэвікоу с паклонамі, каб ім былі выдадзены дублеты з Публічнай Бібліатэкі, якія былі вывезены з Вільні, Городны, Коуны, г.-з. з раёну нібы-то Польскай Рэчы Паспалітай. І што ж: палякам выдалі нашую старасьведчыну.

Чацьвёрты вал пануе на нашай бацькаўшчыне цяперака. Што ён робіць? Нішчыць усе, каб было мейсцэ дзе садзіць польшчыну. Варшава выплёвывае у Літву і Беларусь свае „гісторыі“, свае „доказы польскай культуры“ у нашай старонцы, свае байкі аб польскіх местах „Беластоку і Полацку“, „свае новаадкопаныя“ архівы, чы выпіскі з іх. Можна зразумець, не чытаўшы, якую дае літэратуру

## ЗАПІСКА СТАРШЫНЕ РАДЫ МІНІСТРОЎ.

Прэдстаўнікі сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы, сацыялістычна-народна-дэмакратычнай партыі Літвы, дэмакратычна-народнай партыі „Згода" („Santara"), хрысьціянска-дэмакратычнай партыі Літвы, хаўруса землеробаў, народна-паступовай партыі і „Незалежнага Клюбу" падалі Старшыне Рады Міністроў М. Слежэвічу запіску з указаньнямі такого зьместу: 1) абараніць край ад уселякіх наездчыкоў, 2) звольніць з штабу і разьведкі працiунікаў Літоўскае Дзержавы, 3) звольніць іх з другіх дзержаўных установ, 4) зьменьшыць лік міністэрстваў, 5) зьменьшыць лік чыноўнікаў, 6) даць жыцьцё дэмакратычным установам самаўпраўленьня, 7) як найхучэй склікаць Установчы Сойм, 8) абараніць інтэрэсы работнікаў ад эксплаатацыі іх памешчыкамі, 9) канфіскаваць на моцы выданага закону маетнасьць тых асоб, якія працуюць на шкоду Літоўскай Дзержаве і яе незалежнасьці, 10) установіць кантроль над працаю чыноўнікаў, 11) скасаваць, дзе можна, ваеннае палаженьне і дазволіць свабоду друку, слова і сходаў тым грамадзянам Літвы, якія прызнаюць яе незалежнасьць.

## АХВЯРЫ ПОЛЬСКАГА ТЭРОРУ.

Міністэр Беларускіх Спраў 27 жніўня г. г. падаў Старшыне Рады Міністраў гэтакі ліст:

„У дадатак да мойго пратэсту ад 17 жніўня, паданаго Вам пры лісьце ад 25 жніўня за № 893 спешаюся давесьці да Вашаго ведама самыя апошнія весьці з Городны ад беларускіх дзеячоў, якія слёзна моляць аб нашым заступнічэстві і помачы.

Апроч арэштованых і высланых у Варшаву Члена Тарыбы прат. І. Корчынскаго і Загадычка Спраў Беларускай Городзенскай Земскай Управы В. Боева, згінуў неведама куды Член Тарыбы д-р К. Белецкі, захоплены палякамі; арэштованы Старшыня Беларускай Городзенскай Управы Е. Курлоў, арэштованы і вывезены палякамі у Кракоў: Таварыш Старшыні Беларускай Городзенскай Земскай Управы С. Якавюк, Сэкрэтар Управы Аудзеевіч, Прэдстаўнік Міністерства Фінансоў П. Марозоў,



**РАМУАЛЬД ЗЕМКЕВІЧ.**

Вядомы беларускі бібліограф, ўладар зьбёраў старасьведчыны; за час панаваньня большэвікоў страціў ўсе свае кніжныя архівы і унікумы.

нашай інтэлігэнцыі і моладзі Польшча і дзеля чаго ўсё гэта!

Так бывала і у часы змаганьня за незалежнасць нашых прадзедоў, калі маскоўскія цары, як Іван III, чы Іван IV Грозны, захапіўшы якое значнейшае места Вялікага Князьства Літоўска-Беларускага, як Смаленск, Воршу, чы Полацк першым чынам вывозілі адтуль дакумэнты і архівы з рожнымі граматамі, прывілеямі і т. п. праўнымі і гістарычнымі актамі.

Такі ужэ лёс быў да гэтаго часу у літвіноў з беларусамі, каб у іх трасліся чубы і лілася іх кроў у спорках і крывавых распpавах маскоўскіх і польскіх паноў.

Пагібель нашай старасьведчыны-гэта стрыманьне разьвіцьця нашай культуры, гэта абезаружэньне нашай інтэлігэнцыі.

Гэтакая справа павінна прымусіць усіх цьверозых грамадзян краю і інтэлігентоў не дапушчаць пагібелі нашай старасьведчыны. Зьбераць, хаваць і берагчы гістарычныя і навучныя кнігі і літэратурныя часопісі мінуўшчыны—павінна стаць абавязкам кожнага. Дзе можна, закладаць гурткі, таварыства-спэцыяльна дзеля абароны старасьведчыны. Асьцерэгаць тых, хто не разумее гэтага і навучаць цёмных.

Кніга-наагул лепшы прыяцель чалавека, і што бывае з чалавекам, калі ён пазбудзецца ўсіх сваіх прыяцелёў?..

А стары прыяцель-лепш за новых двaіх. На знаёмстві з старым, чалавек лепш разумее новае і новых прыяцелёў сабе выбірае.

Праф. В. СМОЛКО.

афіцэры беларускага поўка Павчэр і Бутовіч, вядомая дзеячка Беларускага бежэнскага камітэту гэнеральша Пурыхава, рэдактор бэларускай газэты „Родны Край“—Грыб, вучыцелька Мядзёлко, Дырэктар Беларускай высшэй начальнай школы Антонаў, ад якого адабралі 19,000 марок школьных грошы, беларускі дзеяч Грыцук; арэштованы і адпраўлены у Берэсцейскі ваенны лагер б. Камэндант Городны беларускі афіцэр Калугін і мн. іншых.

Паведамляючы Вас аб гэтым, прашу Вас зараз жэ давесьці да ведама місый Антанты, якія знаходзяцца у Коўні, і па радіотэлеграфу у Парыж.

Мы павінны прылажыць апошнія і рэшучыя усілкі, каб абараніць беларускую інтэлігэнцыю—грамадзян Літвы ад зьдзеку і гібелі у кракоўскіх турмах“.

## КРОНІКА.

### НЕГЛАСНЫ АРЭШТ ЧЛЕНОЎ ТАРЫБЫ.

Члены Літоўскай Дзержаўнай Рады (Тарыбы)—В. Ластоўскі, кс. В. Талочко і К. Фалькевіч знаходзяцца у Вільні пад негласным арэштам. Выезду з Вільні ім не даюць нікому. Асабліва палякі забараняюць ім нават клапаціцца аб выездзе у Коўну, дзе яны вельмі патрэбны у сходах Сеньорэн-Конвенту Літоўскай Тарыбы.

### СЕМЫ ЧЛЕНОЎ ТАРЫБЫ.

Семьі арештованага палякамі члена Літоўскай Тарыбы у Городні пратаерея І. Корчынскаго, а так сама і д-ра К. Белецкаго знайходзяцца у вельмі цяжкім палажэньні. Ім памагаюць матэрыяльна городзенскія жыды. Так сама, як кормяць у Лукішскай Віленскай турме жыдоўскія арганізацыі арэштованнага там рэдактора „Роднаго Краю“—Т. Грыба.

### БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА «РАДА»

Міністэрствам Беларускіх Спраў пададзены у Раду Міністроў праэкт выдавецтва у Коўні афіцыяльнай беларускай газэты па назваю „Рада“, якая мае выходзіць два разы у тыдзень. Патрэбны дзеля гэтаго беларускі шрыфт (кароткае у, ц, ы, з) ужэ атрыманы з Нямеччыны друкаром Бакам.

### АДСУТНАСЬЦЬ ШКОЛЬНЫХ ПАДРУЧНІКАЎ.

Міністэрства Беларускіх Спраў атрымовывае з беларускай часьці Літвы запросы аб прысылцы туды школьных падручнікаў і кніг. На гэта Міністэрства мае толькі адзін адказ „нічога німа!“ Усе беларускія школьныя кнігі разышліся, рэштыя, што былі у Городні, захоплены палякамі. У Вільні ж асталася вельмі невелічкая часьць кніг. Усе заходы Міністэрства аб тым, каб урадовым способам выдаць хоць часьціну беларускіх кніг, пакуль не далі нічога.

### РАСХОД МІНІСТЭРСТВА.

Міністэрства Беларускіх Спраў расходавала на свае установы усяго ў чэрвеню—20,000 аўксіноў, у ліпеню—27,100 аўксіноў; на жнівень асыгнована было Міністэрству 28,100 аўксіноў.

### КАМІСЫЯ У ГОРОДНО.

У камісыю, якая мае выехаць нарешці у Городно дзеля выясненьня прычын і адпаведнасьці палякоў у справе разаружэньня 1-шаго Беларускаго поўка, ад Міністэрства Беларускіх Спраў прызначэны Райца К. Рэмішэўскі. У гэну камісыю, як ведама, маюць ўвайсьці па аднаму француз, ангельцу і амэрыканцу.

### ПРЫЕЗД АФІЦ. Л. КАЛУГІНА З ПЛЕНУ.

Былы камэндант Городна беларус афіцэр літоўскай арміі, які месяц тому назан быў арэштованы у Городні і вывезены у Берэсьцейскі ваенны лагер (дзе садзержаўся разам з большэвікамі і рожнымі цёмнымі людзьмі)—Л. Калугін шчасліва вывырабіўся з лагера і уцёкшы прыехаў ужо ў Коўну. Трэба занзначыць, што д. Калугін да апошняга дня насіў поўную ваенную форму, чым наражаў на сябе польскіх жандармоў.

### РЕГІСТРАЦЫЯ БЕЛАРУСОЎ—ВАЕННЫХ.

Дзеля выясненьня ліку беларусоў у літоўскім войску, апроч чыста беларускіх часьцей, Міністэрства Беларускіх Спраў робіць рэгістрацыю ўсіх беларусоў—ваенных.

### УХОД К. ЕЗАВІТАВА.

Начальнік Канцэлярыі Міністэрства Беларускіх Спраў К. Езавітаў пакінуў гэту пасаду з асабістых прычын. 29 верасьня К. Езавітаў выехаў з Коўны, адводзімы таварышамі па працы.

### БЕЛАРУСЫ НА ФРОНЦІ.

Дзеля болей усестароннага асьветленьня учасьця беларусоў у абароні нашай бацькаўшчыны, Міністэрство Беларускіх Спраў апублікавала такія весткі з фронту:

1-шы Беларускі швадрон пад камандай афіцэра М. Глінскага з 23 па 24 жніўня быў атакованы вялікім адрадам польскіх легіанероў на беразе Нёмана у м. Лейпуны. Швадрон пад націскам палякоў павінен быў адыйсьці, згубіўшы забітымі, раннымі і палоннымі: аднаго малодшаго офіцера (Фэлькерзама), 12 солдатоў, 13 коні. Праз колькі дзен часьць палонных уцякло. Уцёкшыя поведамляюць, што рэштыя палонныя атпраўлены палякамі у Горозенскі лагер.

1-шая Белоруская рота пад камандай офіцэра Міхайлоўскага з 24 да 31 жніўня прынімала учасьцье у безперэрыўных баёх на паўночным фронці, маючы страты. Да таго 28 ліпеня у вескі Цэгельня леглі смерцьцю адважных афіцэр Юры Пліско, малодшыя пад-афіцэры М. Вайцехоўскі і К. Раманоў: тады-ж атрымалі раны: малодшыя пад-офіцэры Н. Дуброўскі, А Мазоль, стрэлкі І. Сухадольскі, А. Васільеў, Я. Рымкевіч (памер). У штыкавой барацьбе згінуло бэз вестак 7 чалавек. У бої той жа роты 8 ліпеня забіты стрэлок К. Патаковіч у двара Аннэнгоф і 11 ліпеня у Нэй-Грынвальд—І. Леановіч.

Аб лёсі людзей 1-шага Беларускаго поўка у Городні-правідловых вестак німа. Ведама толькі што усе афіцэры і болей інтэлігентныя салдаты загнаны палякамі у турмы у Городні, Варшаві, і Кракаві.

### НАШЫЯ ВАЯКІ.

За слаўныя справы на фронці прэдстаўлены да наградоў: малодшыя афіцэры: Г. Пліско, П. Ласінскі, старшы пад-афіцэр Т. Шаркоу, малодшыя пад-афіцэры: Кубіцкі, Мазоль, Вайцехоўскі, Раманоў, Рамбовіч, радавыя: Юдкяла, Шолом, Ромейка, Сількінэр, Дубіцкі, Печулайтіс, Рынкевіч, Васільеў, Сухадольскі, Владышэўскі, Радюш, Печура, Жук, Бернатовіч, Рондэйко Кравацкі, Пупель, Гелажун, Бэер, Ягело, Брэзінскі, Ярмак, Каханоўскі.

———o———

### ПРАПУШЧЭНА.

Пад малюнкам на страніцы 7-май прапушчэна подпіс—„Тамаш Грыб“ Член Рады і. т. д.

ВЫДАВЕЦТВА і РЭДАКЦЫЯ: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. КОЎНА. Вуліца Міцкевіча, 13а.

**1-шай пешай Беларускай роты**

падпаручнік **Юры Пліско,**

малодшыя пад-афіцэры **Міхал Вайцехоўскі**

і **Ягор Раманаў**

і стрэлок **Янка Рынкевіч**

28 жніўня 1919 году ляглі сьмерцьцю у штыкавой барацьбе з чырвонымі маскалямі у вёскі Цэгельня, баронячы свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны, аб чым з глыбокім смуткам абвешчаюць

ТАВАРЫШЫ.

**1-шай пешай Беларускай роты**

стрэлкі **Казьмер Патаковіч і Янка Леановіч**

ляглі сьмерцьцю адважных, баронячы свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны: першы—8 ліпеня 1919 году каля двара Анэнгоф, другі 11 ліпеня каля двара Нэй-Грынвальд—на Паўночным Фронці, аб чым з глыбокім смутком абвешчаюць

ТАВАРЫШЫ.

## Абвестка

„Навукова-Выдавецкага Таварыства імя Ф. Скарыны“ (часово Коўна, Вількамірская шаса, 41 б.)

Загад Таварыства вельмі просіць ўсіх нашых землякоў і прыяцелёў дастаўляць нам, калі у каго акажуцца непатрэбнымі, якія беларускія газэты з Вільні, Менска, чы Смаленска, чы іншыя выданьня на беларускай мове, чы на другіх мовах аб беларусах; а так сама сучастныя расейскія газэты, якія пішуць аб нашай справі, чы старыя і старасьвецкія кнігі.

ЗАГАД.

## Пачтовая скрынка.

1. РАМАНУ СУНІЦЫ. Калі што можеце, зберажэце з нашых зьбёраў. Для Вас ёсьць па 2 экзэмпляры. Ад Арк. См. лісту не было.

2. СЫМОНУ Р.-М. Чэкаем ад Вас весткі. Да Вас паехаў Ж-ко.

3. М. Г. ХВ. Прышлеце брашуру Кудрынскага „Беларусы“ і „Крывічаніна“.

4. ХАЛІМОНУ. Не мелі лісту—з лютага.

5. РЭДАКЦЫІ „Б. ДУМКА.“ Патрэбны нам Вашыя усе №№, пачынаючы ад 28-га.

6. З. БЯДУЛІ. Патрэбна Ваша брашура „Жыды на Беларусі“ і экзэмпляроў з 5 „Варты“.

7. МЕНЧУКУ. Аб Я. Коласі і Б Шыпілі вестак ніякіх німаем.

8. В. Л. Ні маем ні воднага Вашага выданьня.

9. ВУЧЫЦЕЛЮ. Беларускія Вучыцельскія Курсы знайходзяцца у Вільні: Вострамская вул., 9.

# Шануйце беларускую кнігу!

Прачытаўшы не кідай, а пакажы суседу! Калі чаго не зразумеў, спытай у Рэдакцыі!



Друкарня А. Бака і Х. Манкеса. Коўна.